

# Голас душы



Яднанне ў любові

№ 27 (210)
Субота, 8 ліпеня 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь

# ПАСЛАННЕ БІСКУПА АНТОНІЯ ДЗЯМ'ЯНКІ,
## АПОСТАЛЬСКАГА АДМІНІСТРАТАРА МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ

**Умілаваныя браты і сёстры ў Хрысце Пану!**

14 чэрвеня гэтага года Папа Бенедыкт XVI прызначыў мяне Апостальскім Адміністратарам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Я ўдзячны Святому Айцу за даверанную мне ганаровую пасаду ў Мінска-Магілёўскім Касцёле, у якім на пачатку мінулага стагоддзя працаваў Слуга Божы Зыгмунт Лазінскі – біскуп, які адзначаўся святасцю жыцця, – а на пераломе тысячагоддзяў гэтую паслугу выконваў кардынал Казімір Свёнтэк, fidei testis. Мы ўдзячныя яму за сведчанне святарскай веры ў сталінскіх гулагах і на кожным месцы ягонага служэння Богу і людзям.

Асаблівую падзяку хачу выказаць Апостальскаму Нунцыю ў Беларусі арцыбіскупу Марціну Відавічу за яго добразычлівасць і бацькоўскі клопат.

На пачатку свайго служэння ў якасці Апостальскага Адміністратара я звяртаюся з просьбай аб малітоўнай падтрымцы да цябе, Народ Божы, каб у Мінска-Магілёўскім Касцёле я служыў дзеля большай хвалы Бога, Адзінага ў Святой Тройцы, і дзеля дабра вернікаў, даручаных пастырскаму клопату біскупа. Прашу аб малітве дзяцей, моладзь, сем'і, а перадусім людзей хворых і тых, хто ў патрэбе, – праз сваё цярпенне яны знаходзяцца бліжэй за ўсіх да крыжа Хрыстовага. Я разлічваю на дапамогу і супрацоўніцтва тых, хто выконвае разнастайныя абавязкі ў нашым грамадстве. Спадзяюся, што нашыя супольныя намаганні – нягледзячы на няпростыя выклікі, якія ставіць сучасны свет, – будуць садзейнічаць умацаванню цывілізацыі жыцця і любові.

Звяртаюся з просьбаю аб малітве да ўсіх святароў Мінска-Магілёўскага Касцёла, да законнікаў і сясцёр законных, дыяканаў, алюмнаў духоўных семінарый. Я разлічваю на вашую падтрымку ў маім служэнні, каб мы разам ішлі шляхам святасці і дапамагалі іншым імкнуцца да яе.



Разам з вамі ўсімі я хачу ісці шляхам веры пілігрыма пад апекай Марыі, Маці Езуса Хрыста – Маці Божай Будслаўскай, Маці Божай Вастрабрамскай, Маці Божай Чэнстахоўскай...

Мой біскупскі заклік «Ut unum sint» («Каб усе былі адно») я буду і надалей рэалізоўваць. Дзеля таго, каб нас яднаў Езус Хрыстус – наш Пан і Збаўца, каб мы ўсе былі адной сям'ёй Божых дзяцей. Няхай Пан учыніць нас прыладай свайго супакою, каб мы, як заклікаў святы Францішак Асізскі, *«сеялі любоў там, дзе пануе нянавісць,*

*прабачэнне – там, дзе пануе крыўда, еднасць – там, дзе пануе разлад, надзею – там, дзе пануе роспач, святло – там, дзе пануе цемра, радасць – там, дзе пануе смутак. (...) Каб мы маглі не столькі шукаць суцяшэння, колькі суцяшаць, не столько шукаць разумення, колькі разумець, не столькі шукаць любові, колькі любіць, бо, калі даём – мы атрымліваем, калі прабачаем – атрымліваем прабачэнне, а калі паміраем – нараджаемся для вечнага жыцця праз Езуса Хрыста, Пана нашага».*

Езус Хрыстус да сваіх вучняў скіраваў наступнае пасланне: *«Ідзіце і навучайце ўсе народы (...). Вучыце іх захоўваць усе, што Я загадаў вам. І вось Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэння веку»* (Мц 28, 20). Гэтае пасланне і мы павінны выконваць у Духу Хрыстовага Евангелля, і тады настане адна Аўчарня і Адзін Пастыр.

На плённае абвяшчэнне Добрай Навіны ад усяго сэрца блаславаўляю

*ксёндз біскуп Антоній Дзям'янка*
*г. Мінск, архікатэдра імя Найсвяцейшай Панны Марыі*
*Дзень малтваў у інтэнцыі святасці святароў, 26 чэрвеня 2006 г.*

# 55 ЛЕТ СВЯЩЕНСТВУ ЙОЗЕФА РАТЦИНГЕРА

***У Папы праздник – юбилей рукоположения***

29 июня 2006 года исполнилось 55 лет священству Йозефа Ратцингера – нынешнего Папы Бенедикта XVI. Он был рукоположен в 1951 году знаменитым кардиналом Михаэлем Фаульхабером епископом мюнхен-фрайзингским в кафедральном соборе Фрайзинга.

Ратцингер стал самым знаменитым священником, рукоположенным почтенным отцом Михаэлем. Через год (12 июня 1952 г.) монс. Фаульхабер скончался, так как был уже в годах и провел активную жизнь. Довольно долго кардинал служил капелланом в войсках и стал первым священником, заслужившим железный крест – высшую военную награду Германии.

В отличие от своего покровителя, Ратцингер всегда испытывал неприязнь к военной службе, ему было достаточно впечатлений от Второй Мировой. «От священника не требуется быть экспертом в экономике, строительстве или политике. От него ждут, что он будет экспертом в духовной жизни», – считает Папа.

Йозеф Ратцингер пожелал стать священником (и кардиналом) в 5 лет, под впечатлением от встречи с упомянутым монс. Фаульхабером. Коротко остриженного тогда еще молодого кардинала (возведен в сан в 1921 году) с волевым лицом и пронзительным взглядом маленький Йозеф увидел в один из его пастырских визитов. Уже тогда Фаульхабер был епископом епархии, которую через 45 лет возглавит сам Ратцингер.



Рукополагался Йозеф вместе со своим старшим братом Георгом, тоже избравшим церковный сан, но брат предпочел музыку и долгие годы возглавлял всемирно известный хор мальчиков в Регенсбурге. Вот что рассказывает сам Папа о своем рукоположении в ответ на вопрос журналиста:

*– Высшим пунктом вашей жизни стало рукоположение в священники 29 июня 1951 года. И там произошло что-то особенное: маленькая ласточка пролетела вдоль собора к алтарю, когда кардинал возложил на вас руки.*

– Да, это драгоценное воспоминание. С одной стороны у меня была эта моральная уверенность, что это воля Божья для меня, что все правильно. Но когда события так велики, и будущее так неизвестно, все же всегда остается вопрос: поступил ли ты правильно, было ли это хорошим решением, выдержишь ли ты это? Для меня это действительно был знак, который очень помог, ведь в момент возложения рук, когда человек становится священником, вспорхнула птичка, прилетела к алтарю и засвиристела песенку. Не надо это рассматривать как суеверие, но для меня в любом случае это был знак, что происходящее правильно.

Знала ли та птичка, кого приветствует? В любом случае, она поступила правильно. Стоит напомнить, что в будущем году мы отпразднуем 30 лет епископской хиротонии Йозефа Ратцингера и тогда же Папе исполнится 80.

*BenediktXVI.ru*

## УЧЕНЫЕ, УНИЧТОЖАЮЩИЕ ЭМБРИОНЫ, МОГУТ БЫТЬ ОТЛУЧЕНЫ ОТ ЦЕРКВИ

***Кардинал Альфонсо Лопес Трухильо, глава Папского совета по вопросам семьи, заявил, что «уничтожение человеческих эмбрионов является эквивалентом аборта».***

В своем интервью итальянскому изданию Famiglia Cristiana кардинал обсудил вопросы жизни и положение семьи в современном обществе.

Он подчеркнул, что ученые, занятые в сфере исследований человеческих эмбрионов, в том числе и исследований с эмбриональными стволовыми клетками, могут быть отлучены от Церкви. Кардинал подтвердил, что отлучению от Церкви подлежат люди, которые совершают аборты или поддерживают эту практику.

Говоря об институте семьи, он отметил, что современное законодательство и секулярная



культура, враждебно относящаяся к браку, ведут планомерную борьбу против этого института.

«Идея, что брак является всесторонним благом и основой общества, постепенно исчезает. Более того, налицо тенденция к признанию семьи некой угрозой свободе каждого человека», – добавил он.

Кардинал Трухильо также выразил свою обеспокоенность попытками создать новые «права человека». «Сейчас в обществе все больше и больше аборт начинает признаваться правом человека, хотя он является преступлением. Об этом говорил Иоанн Павел II в «Evangelium vitae». Жизнь уже перестала быть священной и неприкосновенной, и теперь люди сами решают, когда ее начать и завершить».

*Agnuz*

## ВАТИКАН ОПУБЛИКУЕТ СЕКРЕТНЫЕ АРХИВЫ ВРЕМЕН ПАПЫ ПИЯ XI

***Святой Престол готовится открыть доступ к секретным архивным документам времен Папы Пия XI, понтификат которого приходился на промежуток между Первой и Второй мировыми войнами, сообщает AP.***

Архивы покрывают период с 6 февраля 1922 по 10 февраля 1939 года. Исследователи смогут впервые прочитать эти документы 18 сентября.

В 2003 году Ватикан объявил о том, что открывает для ученых доступ к миллионам архивных документов, ранее хранившихся под грифом «секретно» и проливающих свет на довоенный период. Секретность была снята со многих документов досрочно по личному настоянию покойного Папы Иоанна Павла II.

Не исключено, что среди вновь открывающихся архивов будет доступна последняя энциклика Пия XI, которую этот Папа не успел опубликовать до своей смерти. Она называлась «Humani Generis Unitatas» (Единство рода человеческого) и была посвящена осуждению расизма и национализма.

*Agnuz*

## ПИСЬМО О ВЗАИМНОМ ПРОЩЕНИИ

***Во время совместной литургии епископы Венгрии и Словакии подписали письмо о взаимном прощении и примирении для исцеления «ран прошлого».***

В рамках национального Года молитвы о примирении, объявленного венгерской Епископской конференцией (CEU), вчера епископы словацкой и венгерской Епископских конференций отслужили совместную литургию примирения в кафедральном соборе Эстергома (Венгрия). Во время богослужения – сообщает информационное агентство SIR – были зачитаны письма о примирении



между этими двумя Епископскими конференциями, подписанные их главами. В связи с этим историческим событием Бенедикт XVI направил свое апостольское благословение, выразив «удовлетворение этой важной встречей» и пожелав, «чтобы она способствовала обновлению обязательства утверждать христианские ценности ради блага обеих общин». Кардинал Петер Эрде, архиепископ Эстергом-Будапештский, напоминает в своем письме о «более чем тысячелетней истории», соединяющей два народа, в которой было много хорошего, но хватало также страданий с одной и с другой стороны из-за «конфликтов и несправедливости, оставивших раны в душах». Венгерские епископы попросили милосердия и прощения у Бога за все содеянное. Вместе с тем, они подчеркнули, что и венгерский народ должен ощутить всю силу прощающей любви за пережитую в прошлом несправедливость. Словацкие епископы ответили: «Прощаем и просим прощения». Монс. Фратишек Тондра, глава словацкой Епископской конференции, заявил в проповеди: «Давайте забудем все плохое, что мы вместе пережили в прошлом. А все, что было хорошим, давайте используем в сфере духовной и культурной жизни, ко взаимному обогащению друг друга».

*Agnuz*

# БУДСЛАЎСКАЕ БЛАСЛАЎЛЕННЕ

***Першы раз. Нейкае трохі містычнае спалучэнне слоў. З'яўляючыся шчырым каталіком і сталым парафіянінам, я чамусьці толькі на дваццаць чацвёртым годзе свайго існавання ў целе фізічным наведаў Будслаў і адкрыў для сябе гэты цуд. Будслаўскі цуд.***

Нават паветра там асаблівае. Як выходзіш з аўтобуса – адразу адчуваеш велічны дух, што вітае цябе, благаслаўляе, запрашае далей, у святыню. Адразу таксама моладзь. **Моладзь, моладзь, моладзь.** Паўсюль.

Узрушаная, прасветленая. З'яднаная. Моцная ў сваёй веры, у сваёй любові да Бога. Да Беларусі. У тым жа і непахісная. Людзі, людзі. Мне шкада, што многія з тых, хто ў адчаі, роспачы, хто зняверыўся, расчараваўся ў сваіх ідэалах – шкада, што яны не бачылі гэтага дзейства. Божа, не пакідай іх.

Падыходзім бліжэй да святыні. Шумлівая Грамада. Не натоўп, не базар, не статак. Менавіта Грамада: вернікі-грамадзяне натхнёна спяваюць каталіцкія гімны, апранутыя беларускай моваю, вітаюць адзін аднаго, усміхаюцца. Атмасфера такая, што любы, нават самы атэістычны псіхааналітык, убачыўшы гэ-та, хуценька параіць сваім кліентам наведаць наступным годам будслаўскі фэст. Таму што гэта дапамагае. Дапамагае як маральна, так і фізічна. Аб фізічным пазней сцвярджаў паважаны доктар медыцынскіх навук, які ўдзельнічаў у пілігрымцы разам з пробашчам парафіі святых Сымона і Алены Уладыславам Завальнюком. Па словах доктара, у некаторых удзельнікаў пілігрымкі назіраліся праблемы з ціскам, з сардэчным рытмам. Але, калі людзі прыйшлі да святыні, цяжкасці са здароўем зніклі, не стала ні таго паменшанага ці павялічанага ціску, не стала той арытміі. Бо сам Госпад вітаў сваіх пілігрымаў. Вітала Маці Божая Будслаўская. Вітала сваіх дзяцей, народжаных на святой беларускай зямлі, крывічоў і крывічанак, вітала нашых эмігрантаў, многія з якіх прыязджалі ці прыляталі з далёкага замежжа, каб памятаць, дзе іхнія карані, хто іх апякуе, дае надзею.

Прывітаныя былі і грамадзяне іншых краін, таксама актыўныя пілігрымы і шчырыя вер-нікі.

**Надзея.** Будслаў мацуе веру і благаслаўляе надзеяю. Людзі, праз увесь касцёл, укленчыўшы, набліжаюцца да святога абраза, звяртаюцца да Найсвяцейшай за дапамогаю, абаронаю, дзякуюць, узносяць малітвы і спевы. Малітва, музыка, спеў і



чалавечая надзея. Вера ў Божую мудрасць і ў сілы свае, узмоцненыя гэтай мудрасцю. Сілы, каб навяртацца да добрага і вечнага, каб навяртацца да Айца, Сына і Духа Святога, каб навяртацца да Беларусі.

**Імша.** Па-над грамадою вітае гімн «Магутны Божа». Словамі не перадаць гэтае пачуццё... Нейкая сіла акрыляе сэрца тваё, ты так выразна разумееш сваю прыналежнасць да гэтай Зямлі і яе Святыняў, непарыўную з ёй сувязь, еднасць. Гэта, напэўна, уздымаецца памяць крыві. Крыві і памяць продкаў, што перадавалася нам з пакалення ў пакаленне і захавалася ласкаю Госпада Бога нашага. Ты жывеш і дыхаеш разам з гэтымі словамі спеву-малітвы.

Крыху пазней моладзь падхоплівае гімн Маці Божай Будслаў-скай, у паветры шчыруе «Маці Будслаўская , Маці святая...». Адчуваеш нешта такое роднае, нешта знаёмае з дзя-цінства цёплае і пяшчотнае, як першыя казкі маці і пацалунак бабулі. Ніхто не застаецца раўнадушным.

Пасля Імшы малады ксёндз ізноў пачынае ўрачыста і весела вітаць пілігрымаў з розных гарадоў і мястэчкаў Беларусі, выдатна рэалізуючы функцыю «зваротнай сувязі», –як сказалі б тыя, хто займаецца PK. Менавіта гэтая зваротная сувязь, дапамагла сабрацца такой колькасці шчыра веруючай моладзі ў Будславе. Ммногія з іх, раней былі ўпершыню прыведзеныя да касцёла, ім стала бачная блізкасць каталіцтва і Госпада да людзей. Справа развіваецца. Разам з ёй развіваецца духоўнае жыццё ў Беларусі, адраджаюцца маральныя каштоўнасці, хрысціянскія дабрадзейнасці.

Увечары – **шчырая споведзь.** Адчыняеш сябе Найвышэйшаму. Перапрашаеш за правіны. Адчуваеш сябе малым, не заўсёды паслухмяным, але любімым дзіцяткам. Міласэрнасць.

Ноччу – **працэсія** – вогненная рака, створаная людзьмі і зніччкамі. Урачыстая Імша. Чаканне новага дня.

Многа чаго наперадзе. Хапае перашкодаў. Шмат працы. Патрэбны час. Бывае і такое, што гледзячы на ўсе гэтыя цяжкасці, апускаюцца рукі, хочацца плакаць.

**Толькі зразумейце, мілыя людзі... Пакуль над нашай зямлёй лунае абраз Маці Божай Будслаўскай, пакуль ёсць свае святыні – ніякая апантаная зграя не атрымае перамогі, не знішчыць духу, не вырваць ёй і сэрца верніка.** Пакуль над намі лунае абраз Маці Божай Будслаўскай – жыве і будзе жыць Беларусь.

*Уладзімір Старыковіч*

*Фота Аляксандры Шчыглінскай*

# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 9 ЛІПЕНЯ
## 14 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

## ЧЫТАННЕ КНІГІ ПРАРОКА ЭЗЭХІІЛА

*(Эзх 2, 2-5)*

У тыя дні:

Дух увайшоу ў мяне і паставіў мяне на ногі. І я слухаў таго, хто прамаўляў да мяне. Ён сказаў мне: «Сыне чалавечы, Я пасылаю цябе да сыноў Ізраіля, да народа адступнікаў, які ўзбунтаваўся супраць Мяне. Яны і айцы іхнія паўставалі супраць Мяне аж да гэтага дня. Тыя, да каго Я цябе пасылаю, гэта сыны з упартым тварам і жорсткім сэрцам. І скажаш ім: «Так кажа Госпад Бог».

Ці паслухаюць яны, ці пагардзяць, бо гэта ўзбунтаваны дом, аднак даведаюцца, што прарок ёсць сярод іх.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.

***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс 123 (122), 1-2а. 2всд. 3-4 Р.: 2с)*

***Рэфрэн: Нашыя вочы звернуты на Госпада***

Уздымаю я вочы свае да Цябе, *
што жывеш у нябёсах.
Так, як вочы слугаў *
глядзяць на гаспадарскія рукі.

***Рэфрэн.***

Як вочы служанкі *
на рукі яе гаспадыні,
так вочы нашы на Госпада, нашага Бога, *
пакуль Ён не злітуецца над намі.

***Рэфрэн.***

Злітуйся над намі, Госпадзе, злітуйся над намі, *
бо пагардай мы насычаны.
Насычаны нашыя душы *
насмешкамі фанабэрыстых і пагардаю ганарліўцаў.

***Рэфрэн.***

# ЧЫТАННЕ ДРУГОГА ПАСЛАННЯ СВЯТОГА АПОСТАЛА ПАЎЛА ДА КАРЫНЦЯНАЎ

*(2 Кар 12, 7-10)*

Браты:

Каб жа не ўзвысіла мяне залішняе мноства адкрыццяў, было дадзена мне джала для цела, пасланец сатаны, каб біць мяне, каб я не ганарыўся. Таму я тройчы прасіў Госпада, каб ён адступіўся ад мяне, але Госпад сказаў мне: «Хопіць табе маёй ласкі. Бо сіла ўдасканальваецца ў слабасці».

Дык найахвотней буду я хваліцца сваімі слабасцямі, каб пасялілася ўва мне моц Хрыста. Таму мне падабаюцца мае слабасці, знявагі, недахопы, ганенні, нягоды з-за Хрыста. Бо колькі разоў недамагаю, столькі разоў узмацняюся.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.

***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

Дух Госпада нада Мною:

Ён паслаў Мяне абвяшчаць Евангелле убогім.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

# ✠ ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ МАРКА

*(Мк 6, 1-6)*

У той час:

Езус прыйшоў у свой родны горад. І былі ў дарозе з Ім Ягоныя вучні. Калі настаў шабас, Ён стаў навучаць у сінагозе; і многія, слухаючы, здзіўлена пыталіся: «Адкуль у Яго гэта? І што гэта за мудрасць, якая дадзена Яму? І гэткія цуды здзяйсняюцца Ягонымі рукамі!

Ці гэта не цесля, сын Марыі і брат Якуба, Юзафа, Юды і Сымона? Ці не жывуць тут у нас таксама Ягоныя сёстры?» І сумняваліся ў Ім.

Езус жа казаў ім: «Толькі ў сваёй бацькаўшчыне, сярод сваіх родных і ў сваім доме прарок можа быць так неўшанаваны».

І не мог там зрабіць ніводнага цуду, толькі на некалькі хворых усклаў рукі і аздаравіў іх.

Дзівіўся таксама з іх недавер'я. Пасля хадзіў па навакольных вёсках і навучаў.

***Лектар:*** Гэта слова Пана.

***Усе:*** Хвала Табе, Хрысце.

# ПРАСТОРА ДЛЯ ДЫЯЛОГУ

***На думку вядомага расійскага місіянера прафесара тэалогіі, дыякана Андрэя Кураева, падзел Касцёла на Усходні – Праваслаўны і Заходні – Каталіцкі не з‘яўляецца такім глыбокім, як можа здавацца на першы погляд.***



«Наш падзел глыбокі і сур‘ёзны з рэлігійнага пункта погляду, але з пункту гледжання культурнага і сацыяльнага гэты падзел ніколі не даходзіў да цалкавітай ізаляцыі», – падкрэсліў айцец Андрэй.

Дыякан прыпомніў таксама, што на працягу ўсяго мінулага тысячагоддзя паміж Касцёламі адбываўся пастаянны абмен ідэямі, культурнымі і духоўнымі дасягненнямі.

«Праваслаўе не закрыта ад уплыву вопыта заходняй духоўнай культуры. Дастаткова прыпомніць, што выраз «малінавы звон» паходзіць ад назвы Акадэміі калакольнага звону ў бельгійскім горадзе Малінэ», – сказаў а. Андрэй Кураеў.

«З другога боку, – дадаў ён, – амаль што ў кожным касцёле Еўропы можна ўбачыць праваслаўныя іконы, пераважна рускі. Амаль што ў кожнай каталіцкай кнігарні – вялікая колькасць кніг аб праваслаўіб як праваслаўных, так і каталіцкіх аўтараў, напісаных з вялікай сімпатыяй і разуменнем да праваслаўнага духоўнага шляху».

«Такім чынам, – падсумаваў айцец Андрэй, – многім людзям, якія глядзяць на нашыя адносіны з боку, здаецца, што мы да сённяшняга дня знаходзімся ў стане ледзьве не крыжовых паходаў. Але гэта не так. Памылкова думаць, што існуе толькі дзве альтэрнатывы: альбо татальная рэлігійная вайна, альбо цалкавітае падпарадкаванне Рымскаму Папу. Ёсць яшчэ прастора для дыялогу, часам крытычнага, а часам і ўзаемапрымальнага. У дыяпазоне гэтых дзвюх інтанацый і развіваюцца нашыя адносіны на працягу апошняга паўстагоддзя».

Пры гэтым дыякан Кураеў не выключыў, што ў будучым Каталіцкі і Праваслаўны Касцёлы будуць больш зразумелыя адзін да аднаго.

«***Праваслаўе – гэта «старааб-радства» Еўропы,*** – сказаў ён. – Мы захоўваем тую сістэму каштоўнасцей, якая была характэрна для ўсяго Старога Кантыненту ў мінулыя стагоддзі, асабліва ў тысячагоддзя Царкоўнай еднасці. І калі з развіццём новай, глабальнай цывілізацыі ўсё больш будзе нішчыцца яе хрысціянскі акцэнт, то, магчыма, і Каталіцкі Касцёл нарэшце задумаецца ўжо не аб тым, каб існаваць у нагу з часам, але аб тым, каб не адарвацца ад Апостальскіх каранёў». На думку айца А.Кураева, у тым і складаецца галоўная розніца паміж праваслаўем і каталіцтвам. «Праваслаўны прапаведнік, – патлумачыў ён, – хутчэй ахвяруе сваёй папулярнасцю, але выкажа свой пункт гледжання, які тым не менш з‘яўляецца традыцыйным, нават калі гэта будзе вельмі нясмачна і непрыемна для большасці. А для каталіцкага місіянера важна заўсёды быць з усімі.»

На погляд айца Андрэя і ў той, і ў гэтай пазіцыі ёсць свой станоўчы і адмоўны бок. «А калі і ў далейшым новая цывілізацыя будзе ўсё больш адыходзіць ад хрысціянства, рабіць дзёрзкія выпады супраць яго, тады, магчыма, і каталіцкае духавенства зразумее, што яго заданне – не вярнуць гэты свет ў Касцёл, а бараніць Касцёл ад небяспечнага ўплыву гэтага свету. І тады для каталікоў стане больш зразумелым пафас праваслаўя».

*Падрыхтаваў клерык*
*Дзмітрый Іваноў*
*Фота Аляксандры Шчыгліnскай*

## Бенедикт XVI встретился с лидером буддистов Тайваня

Папа встретился в июня в Ватикане с лидером одной из крупнейших буддийских общин Тайваня мастером Хсином Юнем, сообщает Radio Taiwan International. Хсин Юнь прибыл в Рим вместе с делегацией своих последователей с целью развития диалога между буддизмом и католицизмом. Папа приветствовал гостей и пообещал молиться о народе Тайваня. Хсин Юнь пригласил Понтифика посетить остров, и Бенедикт XVI выразил надежду, что подобный визит когда-нибудь состоится. Хсин Юнь – основатель крупнейшего объединения тайваньских буддийских монастырей Фо Гуан Шань.

*Благовест-Инфо*

# РУХ «СВЯТЛО – ЖЫЦЦЁ» – ХАТНІ КАСЦЁЛ

***Рух «Святло-Жыццё» распачаў сваю дзейнасць як адказ на пастановы Другога Ватыканскага Сабору, скіраваныя на аднаўленне Касцёла. Адбылося гэта па натхненні Святога Духа. З самага пачатку Рух быў справай Безаганнай Маці Касцёла. Адна з галоўных мэтаў руху – фармацыя ўдзельнікаў літургічнай службы ў парафіі.***

Заснавальнік руху Слуга Божы ксёндз Францішак Бляхніцкі нарадзіўся 24 сакавіка 1921 года ў шматдзетнай сям'і ў Польшчы. Падчас вайны ён, зусім малады хлопец, быў арыштаваны як удзельнік падпольнага змагання з захопнікамі і вывезены ў канцэнтрацыйны лагер у Асвенцым. У сакавіку 1942 года Францішак Бляхніцкі быў асуджаны на смерць. Падчас знаходжання ў камеры смяротнікаў Францішак перажыў цудоўнае навяртанне і вырашыў прысвяціць свае жыццё служэнню Хрысту. Пасля чатырох з паловаю месяцаў жахлівай невядомасці яму паведамілі, што смяротны прысуд заменены на 10 гадоў вязніцы. Калі вайна скончылася, Францішак паступіў у духоўную семінарыю ў Кракаве і ў 1950 годзе прыняў святарскае пасвячэнне.

Распазнаўшы знакі часу, малады святар распачаў у сябе на радзіме справу «Аазісу жывога Касцёла» праз правядзенне рэкалекцый для міністрантаў і арганізацыю Круцыяты цвярозасці, мэтаю якой стала барацьба супраць злоўжывання алкаголю. Перамагаючы непаразуменні і перашкоды з боку тагачасных уладаў, ксёндз Францішак Бляхніцкі распрацаваў і пачаў ажыццяўляць асобую сістэму евангелізацыі і выхавання, якая ахоплівала дзяцей, моладзь і дарослых, а таксама сем'і.

Сфармаваны такім чынам Рух Жывога Касцёла ў 1973 годзе быў даручаны тагачасным Кракаўскім арцыбіскупам кардыналам Каралем Вайтылам Беззаганнай Маці Касцёла. Гэта і стала пачаткам існавання руху, які неўзабаве атрымаў назву Рух «Святло-Жыццё».

Аднак першыя гады існавання руху аказаліся надзвычай цяжкімі. Выехаўшы ў 1981 годзе ў Рым, ксёндз Францішак не змог вярнуцца на радзіму, бо там было ўведзена ваеннае становішча, узмацніўся перaслед Касцёла і прагрэсіўнага духавенства. На чужыне, у польскім цэнтры айцоў марыянаў у Карлсбергу (Германія) нястомны душпастыр пачаў арганізоўваць Міжнародны цэнтр евангелізацыі «Святло-Жыццё». Сярод гэтых клопатаў Пан паклікаў яго да сябе ў 1987 годзе.



У рамках руху «Святло-Жыццё» сярод іншых душпастырскіх ініцыятываў была створана таксама сямейная супольнасць, якая атрымала назву Хатні Касцёл.

Супольнасць Хатняга Касцёла руху «Святло-Жыццё» у адпаведнасці са сваёй назвай імкнецца да таго, каб сям'я, якая далучаецца да Руху, станавілася сапраўдным Хатнім Касцёлам. Тады для падрастаючых пакаленняў яна стане своеасаблівым катэхуменатам – падрыхтоўкай да свядомага і сталага жыцця ў супольнасці Касцёла.

Што гэта значыць – ***быць Хатнім Касцёлам,* супольнасцю ў сэнсе евангельскім і хрысціянскім? Адказ на гэтае пытанне павінны шукаць усе хрысціянскія сужэнцы, якія жадаюць пражыць сваё сямейнае жыццё згодна з Божай задумай, аб'яўленай у Хрысце. Кожны хрысціянін мае сваё заданне, кожны павінен прыняць і выканаць тое, што падрыхтаваў для яго сам Бог.**

Аб'яднанне ў назве руху слоў «Святло» і «Жыццё» адлюстроўвае адзінства паміж пазнаннем і справамі чалавека, што дае яму магчымасць спазнаць сапраўдную свабоду. Тую свабоду, што грунтуецца на дабравольным падпарадкаванні патрабаванням праўды: «Спазнаеце праўду, а праўда вас вызваліць» *(Ян 8, 32).*

Сімвал супольнасці Хатняга Касцёла ўяўляе сабою грэцкія словы *фос* – «святло» і *дзоэ* – «жыццё», упісаныя ў крыж, які нібы вырастае паміж двума з'яднанымі пярсцёнкамі, і ўсё гэта ўпісана ў стылізаваны абрыс дома. ***Вялікай пашанай ва ўдзельнікаў Хатняга Касцёла карыстаецца абраз Святой Сям'і.*** Таксама і патранальнае свята супольнасці – гэта свята Святой Сям'і.

Хатні Касцёл звяртае асаблівую ўвагу на духоўнасць сужэнцаў, якая грунтуецца на іх супольным імкненні да святасці. Удзел у Руху павінен дапамагчы людзям, што жывуць у сакрамантальным сужэнстве, разам пабудаваць сапраўдную сужэнскую еднасць, якая таксама стварае найлепшыя ўмовы для добрага выхавання дзяцей у хрысціянскім духу. Хатні Касцёл

## З КЛОПАТАМ ПРА СУМЛЕННЕ

імкнецца да аднаўлення сужэнства і сям'і праз жыццё словам Божым, якое павінна стаць словам жыцця для кожнага чалавека; праз жыццё малітвай, якая становіцца асабістай сустрэчай з Хрыстом Збаўцам; праз жыццё сакрамантамі, асабліва Эўхарыстыяй; праз сведчанне іншым людзям аб сваёй сустрэчы з Хрыстом у сужэнстве і ў сям'і; праз гатоўнасць да служэння ў супольнасці Касцёла паводле атрыманых ад Бога дароў.

Харызмат руху «Святло-Жыццё» ў поўнай меры ўласцівы таксама і супольнасці Хатняга Касцёла. Усе яе ўдзельнікі ў духу еднасці паводле формулы «Святло-Жыццё» паклікана прыняць Хрыста як свайго асабістага Пана і Збаўцу, а таксама імкнуцца да поўнага і адказнага ўдзелу ў жыцці мясцовага Касцёла, будаваць і пашыраць хрысціянскую культуру, працаваць на карысць справы маральнага аднаўлення народа, асабліва праз барацьбу за цвярозасць і праз абарону жыцця ад моманту зачацця да натуральнай смерці.

*З кнігі "Рухі і супольнасці"*

## КАЗКІ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

# ДИКАЯ ЯБЛОНЯ

Жила в лесу дикая яблоня... И любила яблоня маленького мальчика. И мальчик каждый день прибегал к яблоне, собирал падавшие с нее листья, плел из них венок, надевал его, как корону и играл в лесного царя. Мальчик взбирался по стволу яблони, качался на ее ветках, и грыз ее яблоки. Когда мальчик уставал, он засыпал в тени яблони. Мальчик очень любил свою яблоню, очень любил! **И яблоня была счастлива...**

Но шло время, и мальчик подрастал, и все чаще яблоня коротала свои дни в одиночестве. Но вот как-то раз к яблоне пришел мальчик. И яблоня сказала:

– Иди сюда, малыш, иди скорей, покачайся на моих ветках, поешь моих яблок, поиграй со мной, и нам будет хорошо!

– Я слишком взрослый, чтобы лазить по деревьям - ответил мальчик. – Мне хотелось бы других развлечений. Но на это нужны деньги, а разве ты можешь мне дать их?

– Я бы рада, – вздохнула яблоня, – да нет у меня денег, одни только листья и яблоки. Возьми мои яблоки, малыш, продай их в городе, тогда у тебя будут деньги. И все будет хорошо!..

И мальчик залез на яблоню, сорвал все ее яблоки, и унес их с собой. **И яблоня была счастлива.**

Шло время. Мальчик долго не приходил. И яблоня опять загрустила. И когда однажды мальчик пришел, яблоня так и задрожала от радости:

– Иди сюда, малыш! – воскликнула она. – Иди скорей! Покачайся на моих ветках, и нам будет хорошо!

– У меня слишком много забот, чтобы лазить по деревьям, – ответил мальчик, – мне хотелось бы жениться, завести детей. Но для этого нужен дом, а у меня нет дома. Разве ты можешь дать мне его?

– Я бы рада, – вздохнула яблоня, – но у меня нет дома. Мой лес – вот мой дом. Но зато у меня есть ветки, ты можешь срубить их и построить себе дом. И все будет хорошо!



И мальчик, срубил ее ветки и унес их с собой, и построил себе дом. **И яблоня была счастлива.**

Шло время. Мальчик вновь не появлялся. Когда он пришел, яблоня чуть не онемела от радости.

– Иди сюда, малыш, – прошептала она, – поиграй со мной!

– Я слишком стар, – ответил мальчик, – грустно мне. Я хотел построить лодку, чтобы отправиться в путешествие. Но где мне взять лодку?

– Спили мой ствол, и сделай себе лодку, – сказала яблоня, – и ты сможешь уплыть на ней далеко-далеко. И все будет хорошо!

И тогда мальчик спилил ствол яблони, и сделал из него лодку, и уплыл далеко-далеко. **И яблоня была счастлива. ...Хоть в это и нелегко поверить.** Прошло много времени. И мальчик снова пришел к яблоне.

– Прости, малыш, – вздохнула яблоня, – но я больше ничего не могу тебе дать. Нет у меня яблок...

– На что мне яблоки? – ответил мальчик. – У меня почти не осталось зубов.

– Веток у меня нет, не на чем покачаться...

– Я слишком стар, чтобы качаться на ветках.

– И ствол мой уплыл, не на что взобраться...

– Я слишком слаб, чтобы взбираться на стволы.

– Очень жаль, что я ничего не могу для тебя сделать, – вздохнула яблоня. – Я ведь просто корявый пень. Ты уж прости, малыш!..

– Много ли мне теперь нужно? – сказал мальчик. – Я так устал! Найти бы укромный уголок, отдохнуть...

– Вот и хорошо, – сказала яблоня, – для этого старый пень как раз годится. Садись на меня, малыш, садись и отдыхай. Мальчик так и сделал. **И яблоня была счастлива.**

*uucys.ru*

## БЕНЕДИКТ XVI ОСУДИЛ МЕССЫ ПОД ГИТАРУ

***Музыкальным экспериментам на литургии положен предел***

Во время службы в Сикстинской капелле Папа Бенедикт XVI осудил исполнение католических Месс под современную музыку, сообщает Telegraph.

Понтифик заявил, что эксперименты с музыкальной формой Мессы возможны, однако они не должны выходить за рамки Грегорианских песнопений или же церковных хоралов.

Последнее время в Европе и США все больше священников стали проводить службы под нетрадиционную музыку. Например, в Италии особой популярностью пользуется исполнение классических церковных мелодий на гитарах, в Испании Мессы становятся похожими на фламенко, а в США был выпущен альбом психоделической музыки под названием «Месса в F миноре».



Католические священнослужители стали отказываться от традиционной органной музыки для того, чтобы привлечь больше народу на службы. Однако кардинал Ратцингер, ставший Папой Бенедиктом XVI, всегда был известен своими консервативными взглядами в этом отношении. Он даже отстаивал ведение служб на латыни, которое Ватикан отменил в 1960 году.

*Lenta.ru*

## НАЙДЕНО ЗАХОРОНЕНИЕ ХРИСТИАН, СЛЫШАВШИХ АПОСТОЛА ПАВЛА

***Больше тысячи скелетов в «элегантных тогах» были найдены в римских катакомбах св. Петра и Маркеллина. Археологи из римской Французской школы и французского Университета Бордо во время восстановительных работ обнаружили захоронение прямо за средневековыми фресками.***

Ученые датируют найденное захоронение первым веком от Рождества Христова, отмечая, что до сих пор подобных захоронений в катакомбах не встречалось. «Это самое раннее из подобных массовых захоронений», – говорит старший инспектор римских катакомб Рафаэлла Джулиани. По ее словам, обычно в катакомбах погребались два или, самое большее, три тела одновременно, однако в этом случае речь идет о «нескольких комнатах, наполненных скелетами».

По обычаям того времени, тела знатных римлян кремировались, а не погребались. Поэтому есть все основания предположить, что обнаруженные тела принадлежали первым христианам – притом знатным. «Тот факт, что скелеты облачены в дорогие тоги, очень необычен и, возможно, указывает на то, погибшие принадлежали к высшему классу римского общества», – полагает профессор Эндрю Уоллас Хэдрилл, директор Британской школы в Риме.

Причина гибели этих людей до сих пор не ясна. Специальная экспертиза должна выяснить, была ли их смерть насильственной или они умерли от какого-то неизвестного нам заболевания.



По оценкам ученых, захоронения старше самих катакомб, в которых христиане поселились в III веке. Как напоминает сайт «Православие и мир», римские катакомбы использовались первыми христианами как тайные храмы и иногда как маленькие кладбища для мучеников. Название «катакомбы» произошло от одного христианского могильного сооружения, находившегося ad catacumbas – в низменной части долины.

Вот как описывает катакомбы римлянин Пруденций в «Страдании блаженнейшего мученика Ипполита» (III в. от Р.Х.): «Недалеко от того места, где оканчивается городской вал, на возделанной местности, к нему примыкающей, открывает свои темные ходы глубокая крипта. Покатая тропа, извиваясь, ведет в это убежище, лишенное света. Дневной свет проникает в крипту чрез вход, а в извилистых галереях ее уже в нескольких шагах от входа чернеет темная ночь. Впрочем, в эти галереи бросают ясные лучи сверху отверстия, прорубленные в своде крипты; и хотя в крипте встречаются там и здесь темные места, тем не менее через означенные отверстия значительный свет освещает внутренность высеченного пространства. Таким образом дается возможность под землею видеть свет отсутствующего солнца и наслаждаться его сиянием. В таком тайнике скрывается тело Ипполита, подле которого воздвигается жертвенник для божественных священнодействий».

Именно оттуда пошла христианская традиция совершать

## НАВІНЫ

Божественную Литургию на мощах святых – в катакомбах это происходило на могилах, в наши дни – в антиминс вшивается маленький кусочек мощей. В целях гигиены тела, которым собирались воздавать почитание, оборачивались в полотнища с известью. Именно такие следы извести нашли на полотнищах в этом массовом захоронении. Порядок, с которым сложены скелеты, также свидетельствуют о почтении, которое воздавалось этим мертвым людям.

Если будут найдены дополнительные данные, доказывающие, что найденные тела принадлежали первым христианам, то можно будет сказать, что археологи нашли останки адресатов Послания апостола Павла к Римлянам, – этой сенсационной версии придерживаются эксперты издания «Православие и мир».

*Agnuz*

## АБ'ЯВА

**15-16 ліпеня 2006 года адбудзецца пілігрымка**
**«МІНСК – ЖЫТОМІР – БЕРДЗІЧАЎ – КІЕЎ – МІНСК».**

**Выезд групы запланаваны на 01.00 15.07.2006 г. У праграму пілігрымкі ўваходзіць наведванне катэдры і могілак ў Житоміры, знаёмства з прыгожымі куточкамі Бердзічава, урачыстая святая Імша ў Бердзічаве ў 12.00 16.07.2006 г., 3-4-гадзінная экскурсія па Кіеве.**

**Вяртанне ў Мінск каля 6.00 раніцы 17.07.2006 г.**

**Кошт пабыту на Украіне – 11 даляраў ЗША.**

**Дадатковую інфармацыю вы зможаце атрымаць у закрыстыі альбо па тэлефоне 200 44 15.**

## ВІНШУЕМ МАЛАДЫХ

**Аддаём пад апеку Бога маладых, давяраючы, што стрымаюць у сваім жыцці сужэнскую прысягу. Просім нашых парафіянаў аб малітве за іх:**

1. Тарасевіча Івана і Макарэвіч Кацярыну
2. Падалінскага Леаніда і Астроўскую Алену
3. Пятровіча Аляксандра і Міхалкевіч Наталлю

## СВЯТЫ ХРОСТ

**З радасцю паведамляем, што за апошні час**
**Сакрамант Хросту атрымалі наступныя дзеці і дарослыя:**

1. Ілья Іваноў, сын Сяргея і Людмілы
2. Дзмітрый-Ян Варанецкі, сын Алега і Аксаны
3. Аліна Сарагавец, дачка Аляксандра і Ірыны
4. Мікіта Ярмак, сын Сяргея і Раісы
5. Леанід Падалінскі, сын Валерыя і Тамары
6. Арцём Ліпскі, сын Валерыя і Святланы
7. Ангеліна-Яна Якубко, дачка Юрыя і Марыны
8. Уладзіслаў Паляк, сын Вадзіма і Наталлі
9. Вікенцій Кашынскі, сын Віталія і Наталлі
10. Аляксандр Пугоўскі, сын Віктара і Антаніны
11. Ангеліна Волат, дачка Аляксандра і Анжалікі
12. Кацярына Квяткоўская, дачка Аляксандра і Іны
13. Кірыл Бараноўскі, сын Сяргея і Святланы
14. Валерыя Курылёнак, дачка Валерыя і Вольгі
15. Ілья Барысёнак, сын Мікалая і Наталлі
16. Рынат Кіжук, сын Алега і Іларыі
17. Дзмітрый Елсукоў, сын Аляксея і Юліі
18. Даніэль Шапялевіч, сын Васіля і Ірыны
19. Уладзіслаў Гурноўскі, сын Віталія і Наталлі
20. Вячаслаў Поўжык, сын Аляксандра і Наталлі



## СВЯТАЯ ІМША БУДЗЕ АДСЛУЖАНА

. 2006г. у . гадзін

у інтэнцыі ____________________________________________

| 3 ліпеня Панядзелак | 4 ліпеня Аўторак | 5 ліпеня Серада | 6 ліпеня Чацвер | 7 ліпеня Пятніца | 8 ліпеня Субота | 9 ліпеня Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 8.00 - ✞ | 9.00 - * |
| 12.00 - * | 12.00 - * | 12.00 - * | 12.00 - * | 12.00 - * | 10.00 - ✞ | 11.00 - * |
| 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 17.00 - * | 12.00 - * | 13.00 - S |
| 19.00 - * | 19.00 - * | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 17.00 - * 👪 |
| | | | | | 19.00 - * | 19.00 - * |

✞ – Св. Імша ў інтэнцыі памерлых
* – Св. Імша ў інтэнцыі аб здароўі, Божым блаславенстве, апецы Маці Божай
S – Summa – Св. Імша ў інтэнцыі ўсёй парафіі
M – Св. Імша з удзелам парафіяльнай моладзі
PL – Св. Імша на польскай мове
👪 – Св. Імша для дзяцей
**скл.** – складковая Святая Імша
IT – Св. Імша на італьянскай мове
♥ – Св. Імша для маладых сем`яў

Штодзённа ў касцёле а 15-й гадзіне чытаецца **Каронка да Божай Міласэрнасці**
У капліцы Маці Божай Будслаўскай – **Вячыстая Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту**

**11 ЛІПЕНЯ - СВЯТА СВ. БЕНЕДЫКТА, АБАТА, АПЕКУНА ЕЎРОПЫ**

13 ліпеня - Успамін св. Генрыха
14 ліпеня - Успамін св. Каміла Леліскага, святара
15 ліпеня - Успамін св. Бонавентура, біскупа і доктара Касцёла

**9 ЛІПЕНЯ - 14 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

## ВІНШУЕМ

Сёння, 8 ліпеня ў нашага дарагога пробашча – ксяндза **Уладыслава Завальнюка** – Дзень нараджэння.

Ад усяго сэрца складаем Вам нашыя віншыванні, выказваем шчырую ўдзячнасць, наш шаноўны Тата, ксёндз Уладыслаў!

Жадаем, каб светлая ўсмешка ні на хвілінку не пакідала Ваш твар, а ўсе Вашыя добрыя вялікія пачынанні рэалізоўваліся і знаходзілі аднадумцаў.



## ІМЯНІНЫ

**10 ліпеня – св. Антоній – А**нтон, Апат, Амэля, Філіп, Віталій, Самсон, Івонна, Фэліцыта, Георгій, Іван, Серапіён
**11 ліпеня – св. Бенедыкт, св. Вольга –** Каліна, Івона, Алег, Генрых, Герман, Іван, Павел, Сяргей
**12 ліпеня – сьв. Брунон-Баніфацый** – Ян, Гвальберт, Павел, Пётр, Аркадзь, Грэта, Паўліна, Яніна, Вераніка, Фядоцьця, Нікан
**13 ліпеня – сьв. Андрэй, сьв. Бенедыкт, пустэльнікі, сьв. Генрых II, кесар – І**рвін, Маргарыта, Мацьвей, Яўген, Яўгенія, Эрнест, Варфаламей, Іван, Піліп, Пётр, Сафрон, Сымон, Якаў
**14 ліпеня – сьв. Каміл дэ Лельліс, каплан –** Банавентура, Генрыета, Марцэлій, Дамян, Якуб, Ангеліна, Дзям'ян, Кузьма, Нікадзім, Пётр
**15 ліпеня** – Генрых, Уладзімір, Мікалай, Мацільда, Ювеналій.
**16 ліпеня** – Марына, Яўстахія, Анатолій, Базыль, Васіль, Яўстахій, Марыя, Яўлампій, Бенедыкт, Піліп, Сьцяпан, Аляксандр, Дзяніс, Іван, Канстанцін, Марк.
**17 ліпеня** – Ядвіга, Аляксей, Багдан, Багдана, Богна, Пётр, Павел, Александра, Марыя, Андрэй, Фёдар, Фядот, Яфім.

Голас душы № 27 (210) 2006. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 2178. Выдадзена міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 19 лістапада 2003 г.
Заснавальнік: грамадскае аб'яднанне «Хрысціянскае таварыства міласэрднасці». Выдаецца з верасня 2000г. на беларускай, рускай, лацінскай і польскай мовах.
Галоўны рэдактар – Кс. Уладыслаў Завальнюк, адказны рэдактар – Наталля Сундукова, вёрстка – Максім Салавей.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 15. Тэл.: (017) 200-44-15, (017) 200-56-32. Факс: (017) 200-55-61, E-mail: church_minsk@nsys.by,
www.churchminsk.by. Падпісана да друку 06.07.2006. Фармат 60х84 1/8. Наклад 250 асобнікаў. Заказ №

# ЭДВАРД ВОЙНИЛЛОВИЧ
# ВОСПОМИНАНИЯ

## УЗОР АЙЦА, ФУНДАТАР І МЕЦЭНАТ ПАБУДОВЫ КАСЦЁЛА св. Сымона і св. Алены а наш суайчыннік Эдвард Вайніловіч, 11 чэрвеня вярнуўся ў свой храм!



Они срубали новые сосны, не используя валяющиеся под ногами пни и ветки, срубленные их предшественниками. И не было ни одного учреждения, ни одного органа власти, к кому можно было бы апеллировать.

В данном случае Общество опять-таки обвинялось в том, что оно, как организация, объединяющая элиту Края, не занялось делами беженцев и вопросами, связанными с помощью жертвам войны. О понимании Обществом насущных проблем текущего момента и осознании им своей общественной ответственности самым лучшим образом свидетельствуют собранные в первые дни войны 100.000 рублей для потерпевших от военных действий. А то, что оно уступило место вновь созданным организациям: Центральному Гражданскому Комитету и Польскому Обществу помощи жертвам войны, то в данном случае Аграрное Общество еще раз доказало свою рассудительность. Отметим также, что такая большая и располагающая серьезными средствами организация как Центральное Аграрное Общество в Королевстве, откуда собственно и перемещались волны беженцев, также уступила место ЦГК, и что ни одно из обществ не вышло на эту арену. Причем причина такого воздержания лежит намного глубже. А всё просто. С волнами беженцев надвигались волны демократических настроений. Аграрные же общества, состоящие из землевладельцев, были консервативными; причем местные его представители не всегда понимали настроения пришельцев, вследствие чего возникали коллизии, раздражение, самые лучшие друзья становились врагами. Наверное, никто меня не сможет опровергнуть в том, что организации, близкие по духу и состоящие в основном из местной интеллигенции и беженцев (вынужденных и добровольных), приверженцы самых модных взглядов, редко где дружно могли работать. Местные землевладельцы работали в различных отделах Гражданского Комитета и Польского Общества помощи жертвам войны. Аграрное Общество, как коллективная организация никогда не вступало с другими организациями в полемику и не составляло им конкуренции, (и это похвально), а только давало приют в своих стенах, заходя в своем гостеприимстве так далеко, что гости не раз забывали даже об обязанностях гостя перед хозяином.

На этом я хочу закончить свои воспоминания, касающиеся деятельности Аграрного Общества. Возможно, не один раз в дальнейшем я буду возвращаться к этой теме, так как Общество концентрировало в себе все жизнеспособные силы страны, участвовало во всех основных областях жизни провинции, часто ими управляло, и всегда решительно высказывалось в том или ином вопросе. Но этот образ был бы неполным, если бы я забыл рассказать об обедах, устраиваемых моей сестрой Ядвигой Костровицкой при проведении общих собраний Общества. О сестре, как и о себе, писать не совсем удобно, но умолчать о той роли, которую она выполняла в жизни нашей организации, я не могу.

Интеллигентная и гостеприимная женщина, активно занимающаяся общественной жизнью, она устраивала в Минске для участников общих собраний «политические обеды», на которые от ее имени я приглашал приезжих делегатов, а также известных членов Общества.

Сложно перечислить всех тех, кто побывал в ее салонах. Не было ни одного вопроса, какой бы не затрагивался на этих обедах, связанных с деятельностью общества, а позже не выносился бы на общее обсуждение и утверждение. Дискуссии проходили оживленно, каждый свободно мог высказать свои взгляды и убеждения. Старка и вино

под остроумную шутку хозяйки оживляли банкеты, попасть на которые считалось большой честью, и мне как председателю легче было ориентировать гостей на коллективный труд, а также сглаживать существующие различия в их взглядах и мнениях. Отмечаю огромную заслугу своей сестры и благодарю за плодотворное сотрудничество.

Собрания Аграрного общества и заседания Совета проводились на официальном языке и на этом же языке протоколировались. Однако, согласно актам так называемой свободной эпохи, на основании постановления Комитета Министров от 1 мая 1905 года общее собрание 6 декабря 1905 года я открыл на польском языке, предупредив участников о возможности перевода на официальный язык для тех, кто не понимает польского языка. Перевод не понадобился, а реакция зала была ошеломляющая. Но вскоре после этого мы получили от губернатора предупреждение и разъяснение из министерства, что Аграрное общество как организация, подчиненная министерству, и отчитывающаяся перед ним, должно пользоваться на заседаниях официальным языком. После почти 12-летнего перерыва, а, вернее, после февральских событий 1917 года, а именно 5 марта 1917 г., мы опять вернулись к своему языку… Неизвестно, как надолго…

IV.

После длительного рассмотрения в верхах и взвешивания властями различных концепций, направленных на сокращение участия местного помещичьего элемента в деятельности, связанной с самоуправлением, наконец-то очередь дошла и до Минской губернии. Вопрос стоял о передаче в ведение «земств» финансовых, экономических и культурных вопросов. Все это проводилось с огромным опозданием, поскольку правительство по-прежнему сомневалось в «лояльности» наших землевладельцев и страстно желало сохранить в крае действие «исключительного права». Поскольку я с самого начала, то есть с 1903 и до 1917 года был членом поветового и губернского земств, с небольшим трехлетним перерывом во время работы в Государственном Совете, считаю своей обязанностью представить весь процесс создания земских институтов в губернии.

Перед вступлением в силу 1 июня 1903 года в Минской губернии «Положения об исправлении земского хозяйства», принятого 2 апреля 1903 года, Минск посетил министр внутренних дел В. К. Плеве в сопровождении Н. А. Зиновьева – будущего члена Госсовета, а также Любимова – чиновника по особым поручениям , будущего Варшавского губернатора. Время уже было неспокойное, за министрами охотились, поэтому в город Плеве ехал с вокзала окольными путями, с зашторенными окнами кареты. Карета въехала прямо во двор здания губернского правления, где в зале заседаний его уже ожидали собравшиеся представители различных учреждений, в том числе и президиум Совета Аграрного Общества. После заседания члены президиума были приглашены в его кабинет, где и были ознакомлены с намерениями правительства ввести у нас земское самоуправление, но на специальных для нашего края условиях. Он при этом поинтересовался, пожелают ли местные землевладельцы участвовать в этих институтах. Я ответил, что все «исключительные права» мы рассматриваем, как унижающие наших землевладельцев, которые всегда охотно отзываются на любое приглашение правительства и всегда добросовестно выполняют свои обязанности, не давая, таким образом, никаких оснований для недоверия. В связи с этим мы требуем уравнивания нас в правах с землевладельцами внутренних губерний России. Но, поскольку мы руководствуемся принципами участия в любой деятельности, связанной с нашим краем, заявляем, что будем принимать участие во вновь создаваемых институтах.

Министр ответил, что не следует новые законы воспринимать как некое «исключительное право», так как подобным образом планируется реформирование земств во всей России, а Минская губерния должна подтвердить целесообразность этих намерений. На этом заседание закончилось. Я останавливаюсь на тех событиях подробно, чтобы показать, какое реакционное настроение уже тогда преобладало, особенно, если учесть, что согласно закону от 2 апреля 1903 года вся деятельность должна была концентрироваться в губернских земствах. О поветовых земских собраниях даже не упоминалось. На губернских земских собраниях должно было соблюдаться численное преобладание членов вырилистов, и по два представителя от каждого повета, назначенных правительством.

Нельзя сказать, что этот постепенный переход от управления «губернского распорядительного комитета» к земскому, даже в рамках закона 1903 года, был для нас бесполезным. Мы, лишенные возможности в течение ряда лет принимать участие в экономической и культурной жизни Края, на первых заседаниях чувствовали себя слепыми котятами.

*Ксёндз Владислав Завальнюк*

*Продолжение следует*